Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года | 27 (535) 8 ліпеня 2010 года | Кошт **свабодны**

**г. Глыбокае, 3.07.2010 г.**
Свята 66-угодкаў вызвалення горада і Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.



Танцуюць дарослыя і дзеці!

*Фота Ул. Скрабатуна*



## 100 год Задарожскаму касцёлу

15 жніўня 2010 года, у дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, касцёл у Задарожжы будзе адзначаць 100-гадовы юбілей. А 13-ай гадзіне адбудзецца ўрачыстая Святая Імша, якую будзе цэлебраваць кс. біскуп Уладзіслаў Блін і шматлікія святары. Пад час гэтай Святой Імшы адбудуцца дыяканскія пасвячэнні. Пасля імшы – канцэрт, прысвечаны 100-годдзю касцёла.

Сардэчна запрашаем усіх прыняць удзел у гэтых урачыстасцях, а асабліва тых, хто ў гэтым касцёле прымаў святыя сакраманты.

*кс. Эдвард Нарадоўскі, пробашч парафіі Маці Божай Ласкавай у Задарожжы.*

# Ó Â³öåáñêó øêîëüí³ê³ àïðàíóë³ ï³ëîòê³ç Ïàãîíÿé



■ Сяржук Серабро

Пад час святочнага шэсця, прымеркаванага да Дня незалежнасці, у Віцебску на пілотках некаторых школьнікаў можна было бачыць цэшкі з Пагоняй.

Як патлумачылі дзеці, яны належаць да арганізацыі "Хуткая дарожная дапамога", дзе вывучаюць рэгуляванне дарожнага руху і прыёмы першай дапамогі, а на форменных пілотках у іх — герб Віцебскай вобласці.

Нагадаем, што 2 чэрвеня 2009 года Аляксандр Лукашэнка ўказам №277 зацвердзіў герб Віцебскай вобласці з выявай "Пагоні". Таксама выява гэтага герба змяшчаецца на знак "Чалавек года Віцебшчыны".

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Äàðîãà ïàìûëàê íå äàðóå

■ Кастусь Александровіч

**У цёплы перыяд года значна павялічваецца інтэнсіўнасць дарожнага руху ў краіне і адпаведна колькасць сур'ёзных дарожна-транспартных здарэнняў.**

Не стаў выключэннем і Пастаўскі раён, дзе толькі ў чэрвені на дарогах адбылося 8 аварый, у якіх пацярпелі і людзі. Характэрна, што з іх у двух ДТЗ такія здарэнні адбыліся па віне вадзіцеляў жанчын. Спачатку напрыканцы працоўнага тыдня днём на пад'ездзе да вёскі Палессе адна з іх не справілася з кіраваннем матацыкла на закругленні дарогі. Двухколавы транспарт зляцеў у кювет, пацярпелую паспелі даставіць у Лынтупскую ўчастковую бальніцу, дзе яна і памерла. Па злой іроніі лёсу праз тыдзень ужо у суботу 26 чэрвеня ў такі ж самы час на 71-м кіламетры аўтадарогі Браслаў-Паставы-Мядзель зноў не справілася з кіраваннем легкавушкі маладая жанчына-вадзіцель. Здарэнне таксама адбылося на закругленні дарогі, дзе іншамарка "Фіят-брава" зляцела на хуткасці ў кювет, некалькі разоў перавярнулася. У гэтым інцыдэнце менш за ўсіх пацярпела кіроўца, а вось трое пасажыраў, спецыялісты СВК "Курапольскі", з цяжкімі траўмамі былі змешчаны на лячэнне ў райбальніцу. Ім тэрмінова былі зроблены аперацыі нейрахірургамі з абласной бальніцы. З пачатку года ў раёне на дарогах ужо знайшлі сваю пагібель 4 чалавекі і 8 атрымалі раненні.

# Ìûòû íà à¢òàìàá³ë³ çàñòàíóööà ðàíåéøûì³ äà 1 ë³ïåíÿ 2011 ãîäà




■ БелаПАН

**Мытныя пошліны на нафту і нафтапрадукты будуць зняты для Беларусі пасля падпісання і ратыфікацыі з яе боку ўсяго пакета дакументаў па стварэнні Адзінай эканамічнай прасторы Беларусі, Расіі і Казахстана.**

Пра гэта 5 ліпеня ў Астане паведаміў журналістам віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Андрэй Кабякоў, перадае дзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва БелТА.

Адпаведнае рашэнне замацавана ў Пратаколе аб асобных часовых выключэннях з рэжыму функцыянавання адзінай мытнай тэрыторыі Мытнага саюза, які падпісаны адначасова з рашэннем аб увядзенні ў дзеянне Мытнага кодэкса. Такім чынам, тлумачыць агенцтва, мытныя пошліны на нафту і нафтапрадукты для Беларусі будуць зняты аўтаматычна, не чакаючы, калі дакументы па АЭП падпішуць і ратыфікуюць Расія і Казахстан.

У пратаколе таксама замацавана захаванне да 1 ліпеня 2011 года дзейных ставак мытных пошлін на легкавыя аўтамабілі для фізічных асоб. Гэта значыць, іх рэгуляванне нацыянальным заканадаўствам прадоўжана яшчэ амаль на год. Акрамя таго, да 1 ліпеня 2011 года ў Беларусі захоўваецца нацыянальны рэжым рэгулявання гандлю з трэцімі краінамі.

Як заявіў 5 ліпеня ў Астане першы віцэ-прэм'ер урада Расіі Ігар Шувалаў, «беларускі бок паранейшаму лічыць, што фармаванне Мытнага саюза, адзінай мытнай тэрыторыі вядзе да адмены экспартных пошлін ва ўзаемным гандлі. Расійская Федэрацыя і Рэспубліка Казахстан — я падкрэсліваю, што гэта не рашэнне адной Расійскай Федэрацыі, на гэтым настойвае і Рэспубліка Казахстан — лічаць, што да фарміравання Адзінай эканамічнай прасторы (АЭП) і набыцця моцы ўсімі пагадненнямі, якія фарміруюць АЭП, у кожнага боку застаецца права збіраць экспартныя пошліны, пры фарміраванні АЭП такіх магчымасцяў не застанецца».

Нагадаем, раней Беларусь прапанавала Расіі адмяніць пошліны на нафтапрадукты ў 2010 годзе, а на нафту — з 1 студзеня 2011 года.

Ãëûáîöê³ ðà¸í

# Âåðíàñöü ïðûçâàííþ ³ çàêîíó

■ Чэслаў Якубовіч

**У любой сферы дзейнасці поспех прыходзіць толькі апантаным і падрыхтаваным людзям, якія знайшлі сябе ў выбранай прафесіі.**

Апошнім часам на Віцебшчыне найбольш адчувальна папаўзла ўніз крывая злачыннасці ў Глыбоцкім раёне, дзе ўжо 13 гадоў узначальвае райпракуратуру Анатоль Сеўрукоў, імя якога занесена на Дошку гонару Генеральнай пракуратуры Беларусі. Раней выпускнік юрфака БДУ паспяхова працаваў пракурорам Пастаўскага раёна, дзе таксама актыўна займаўся прафілактыкай розных правапарушэнняў. Анатоль Мікалаевіч, як вопытны юрыст, падрыхтаваў шэраг сваіх вучняў, якія дасягнулі значных прафесійных поспехаў. Сярод яго выхаванцаў былы следчы, а цяпер ужо пракурор Гомельскай вобласці Валянцін Шаеў, былыя падначаленыя пайшлі на павышэнне і ўзначалілі пракуратуры г. Оршы, Пастаўскага і Шаркоўшчынскага раёнаў. Перад тым, як сам узначаліў пракуратуру, пасля службы ў арміі і вучобы ва ўніверсітэце працаваў следчым і пракурорам следчага ўпраўлення абласной пракуратуры. Расследуючы неяк адну са спраў, прыйшлося А. М. Сеўрукову дапытаць амаль 400 сведак, каб разабрацца ў ёй. Гады ляцяць надзвычай хутка, але пражыты час толькі пацвердзіў правільны выбар складанай, але пачэснай прафесіі на варце правапарадку.

Øàðêî¢ø÷ûíñê³ ðà¸í

# Àïðà¢äàëà ñòà¢êà íà ÿêàñöü

■ Станіслаў Раманчук

**Нездарма лета любяць усе, а вось для вяскоўцаў, хоць найбольш цяпер працы, гэты час самы спрыяльны для таго, каб зарабіць добрыя грошы.**

Штодзень адна з лепшых гаспадарак Шаркоўшчынскага раёна СВК "Жвіранка" прадае мясцоваму філіялу Глыбоцкага МКК па 20 і болей тон малака. У параўнанні з мінулым годам грашовая выручка вырасла на трэць, праўда, і якасць прадукцыі ягоных ферм істотна палепшылася. У агульным аб'ёме амаль 40 % малочнай прадукцыі гэтай гаспадаркі складае малако еўрапейскіх стандартаў экстра-класа. За яго закупачныя цэны самыя высокія зараз і атрымоўваць сапраўдны сырадой эканамічна стала вельмі выгадна. Ужо амаль тысячу тон такога малака атрымалі на самай сучаснай камп'ютэразаванай ферме з навейшай даільнай залай у вёсцы Більдзюгі. На ёй летась змясцілі 400 высокаўдойных рагуль, кожная з такіх кароў да канца года дасць болей чым па 6 тон малака. Усяго ж дойны статак сельгаскааператыва налічвае болей 2 тысяч галоў, малака атрымоўваюць шмат, за кошт гэтага маюць найбольшы даход і сродкі для далейшага развіцця. За "малочныя" грошы купілі вясной ужо трэці па ліку камплекс, бо зялёных кармоў для такога пагалоўя трэба мець шмат.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 08.07.10 | | | | пятн.09.07.10 | | | сб. 10.07.10 | | нядз.11.07.10 | | 12.07.10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | - | - - | - - |
| Тэмпература, °С | +17 | +18 | +21 | +18 | +15 | +18 | +24 | +16 | +28 | +16 | +29 | +17 | +31 |
| Ціск, мм | 744 | 745 | 746 | 747 | 747 | 748 | 749 | 751 | 752 | 751 | 751 | 750 | 750 |
| Вільготнасць, % | 100 | 88 | 73 | 77 | 94 | 81 | 59 | 95 | 51 | 96 | 51 | - | - |
| Вецер м/сек | З 3 | С-З 4 | С-З 5 | С-З 4 | С-З 4 | С-З 4 | С-З 4 | С-З 2 | С 1 | Ю-З 2 | Ю-З 1 | З 2 | З 1 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**З адставаннем на 2 месяцы адбылося ў Беларусі павышэнне зарплат работнікам бюджэтнай сферы, бо спачатку меркавалася гэта зрабіць з 1 красавіка. З нагоды Дня Незалежнасці па ўсёй краіне прайшлі святочныя мерапрыемствы: шэсці, канцэрты, мітынгі, ушанаванні ветэранаў, а ва ўсіх абласных цэнтрах - сінхронна акцыя "Праспяваем гімн разам". Чарговая газавая "вайна" паміж РБ і РФ завяршылася, але засталіся істотныя супярэчнасці паміж імі, таму кіраўніцтва Беларусі актыўна шукае альтэрнатыўныя маршруты паставак нам энерганосьбітаў.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Польшча.** Як і чакалася, у другім туры датэрміновых выбараў прэзідэнта 4 ліпеня за гэту пасаду пазмагаліся бацька пяці дзяцей Б. Камароўскі і стары халасцяк Я. Качыньскі.

**Бельгія.** Летні саміт лідэраў 27 краін ЕС у Бруселі не падтрымаў праграму выратавання еўра, прапанаваную Францыяй і Германіяй, але пагадзіўся прыняць у еўразону Эстонію.

**Кітай.** У краіне вырашылі закрыць да 7 тысяч малых вугальных шахт у бліжэйшыя 5 гадоў, замест іх створаць 6-8 дзяржаўных кампаній з выпрацоўкай больш 800 млн. тон.

**Мексіка.** На поўдні краіны, у закінутай шахце, паліцыя знайшла 55 трупаў людзей, з якімі жорстка расправілася наркамафія, у сутычках з бандытамі за 3 гады загінулі 23 тысячы.

**Расія.** Вядомы эканаміст Ірына Ясіна пакрыкнула Беларусь, што яна жыве цалкам не па сваіх эканамічных магчымасцях на ўтрыманні Расіі, хітрue і сябруе з ёй па разліку.

**Казахстан.** Уступіў у сілу адыёзны закон аб лідэру нацыі, які надзяліў Н. Назарбаева пажыццёвым імунітэтам і прывілеямі, эксперты лічаць, што ён пакіне пасаду ў 2012 годзе.

**Іспанія.** Краіна перажыла сапраўдны шок, калі ля Барселоны хуткасны пасажырскі цягнік збіў насмерць 12 чалавек, яшчэ 17 юнакоў і дзяўчат атрымалі цяжкія раненні.

**Расія.** Завод "АўтаВАЗ" правёў перамовы з заводам "ІжАўта" аб пераносе ў Іжэўск зборкі недарагіх аўто "Lada 2105/2107", бо яму патрэбны дадатковыя вытворчыя плошчы.

**Японія.** Пасля сямігадовага знаходжання ў космасе японскі зонд даставіў на Зямлю капсулу з узорамі астэроіда Ітокава, размешчаным у 336,5 млн. км ад нашай планеты.

**Куба.** Упершыню ў сваёй гісторыі дзяржаўнае тэлебачанне краіны па двух каналах стала паказваць матчы чэмпіянату свету па футболе ў Афрыцы, прызавы фонд яго 420 млн. $.

**Украіна.** Згодна дэмаграфічнай справаздачы ААН, у краіне пакуль самы нізкі ў свеце натуральны прырост насельніцтва, з 1992 года ўкраінцаў стала менеей на 8 млн. чалавек.

**Фінляндыя.** Урад краіны адверг прапанову забараніць выкарыстанне фінамі пісталетаў і паўаўтаматычнай зброі, бо такая мера не спыніць выпадкі забойстваў людзей злачынцамі.

**Грузія.** З цэнтральнай плошчы горада Горы ўбралі помнік Сталіну да ягонага дома-музея, на гэтым месцы ўстановяць помнік загінуўшым у расійска-грузінскай вайне 2008 года.

**Расія.** Па даследваннях вучоных, на прасторах СНД самай "паліцэйскай" краінай стала Беларусь (1441 міліцыянер на 100 тысяч жыхароў), РФ на 2-м месцы (976 супрацоўнікаў).

**Германія.** Каля 80 % немцаў, па сацапытаннях, лічаць скарачэнне бюджэтных расходаў на 80 млрд. EUR сацыяльна несправядлівымі, не за гарамі і палітычны крызіс у краіне.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Канцэрн "Газпрам" папярэдзіў "Белтрансгаз", што ў 3-м квартале расійскі газ будзе па цане 194 $ супраць 185 $ вясной, а з 2011 года трэба будзе плаціць за газ па 250 $.

**Мазыр.** На мясцовым НПЗ пачынаюць выпуск першай партыі аўтамабільнага бензіна АІ-95, які адпавядае экалагічнаму стандарту Еўра-5 і з'яўіцца ў продажы ў краіне ў жніўні.

**Мінск.** Па ўказанню зверху рэктарат Беларускага дзяржуніверсітэта культуры і мастацтва не працягнуў кантракт з выкладчыкам, вядомым драматургам Андрэем Курэйчыкам.

**Брэст.** Самым прадстаўнічым стаў у горадзе VII фестываль беларускіх фільмаў з удзелам майстроў кіно Польшчы і Літвы, у спецыяльнай праграме былі нават студэнцкія фільмы.

**Мінск.** Славуты архітэктар, аўтар комплекса "Хатынь" Л. Левін, рашуча выступіў супраць зносу помніка архітэктуры, электрастанцыі 1870 года для пабудовы гатэля "Кемпінскі".

**Смаргонь.** У райцэнтры многія ўзрадаваліся, што адна з буйных кампаній Аўстрыі вырашыла ўкласці больш 60 млн. EUR у дрэваапрацоўчае прадпрыемства ў горадзе.

**Мінск.** Буйны кітайскі холдынг Midea Group выкупіў кантрольны пакет (55 %) акцый СААТ "Мідэа-Гарызонт", у сталіцы ён выробляе СВЧ-печы, пыласосы, іншую тэхніку.

**Брэст.** Абласны суд прысудзіў 15 гадоў турмы 25-гадовай грамадзянцы Расіі, якая з мэтай знайсці грошы задушыла адзінокую старую настаўніцу-пенсіянерку ў Драгічынскім раёне.

**Мінск.** На Дзень Незалежнасці ўпершыню ў беларускай сталіцы ў храме-помніку Усіх Святых на вуліцы Каліноўскага прайшло пахаванне астанкаў невядомых салдат.

**Будслаў.** Упершыню штогадовыя масавыя ўрачыстасці 1-2 ліпеня ў гонар абраза Божай Маці Будслаўскай транслíраваліся з храма ў сетцы Інтэрнэт на сайце www.catholic.by.

**Светлагорск.** Да восені ў горадзе будзе закрыта школа-інтэрнат для дзяцей-сірот, а таксама ў Гомелі, з 2005 года ў вобласці закрылі 2 дзетдомы і 2 такія сіроцкія інтэрнаты.

**Барысаў.** За забойства дзіка і самкі дзіка з 6 эмбрыёнамі суд пазбавіў волі браканьера на 2 гады і 1 месяц, наклаў штраф 16,8 млн. рублёў, канфіскаваў ягоную паляўнічую стрэльбу.

**Гродна.** Новы часовы старшыня непрызнанага Саюза палякаў РБ 38-гадовая Анжаліка Арэхва заявіла, што ён не будзе супрацоўнічаць з аналагічнай праўрадавай структурай.

**Мінск.** Тэлеканал АНТ паказаў толькі скарочаны варыянт канцэрта на "Мінск-арэне" легендарнага англійскага музыканта Элтана Джона, ён спяваў там каля трох гадзін.

**Калінкавічы.** Паблізу вёскі Сухавічы міліцыя знайшла і знішчыла амаль паўтоны раслін канаплі для вырабу наркатычных рэчываў у ходзе спецаперацыі "Мак-2010".

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûõ àáëàñíûõ ïàäçåé

**Орша.** Актывісты кампаніі "Гавары праўду!" высветлілі, што гаркамунгас у 2009 годзе патраціў 6 млрд. рублёў на "рамонт" 3 неіснуючых дамоў, а ў 6 – зрабіў прыпіскі работ.

**Наваполацк.** На мясцовым ААТ "Нафтан" глыбіню перапрацоўкі нафты давялі да 73 %, у чэрвені НПЗ выйшаў на рэнтабельнасць працы 3,16 %, прадукцыя ідзе ў 15 краін свету.

**Дуброўна.** Праверка дзяржкантролю выявіла, што ў шэрагу калгасаў раёна з-за недахопу грошай не правялі хімпраполку многіх пасеваў, слаба падрыхтавалі тэхніку для касьбы.

**Бягомль.** Упрыгожаннем гарпасёлка стала пасля рэканструкцыі коштам 3,6 млрд. рублёў мясцовая аўтастанцыя з залай чакання на 50 месцаў, аптэкай, буфетам і кіёскам сувеніраў.

**Новалукомль.** На базе гаркамунгаса прайшла выязная калегія Міністэрства ЖКГ Беларусі, тут ёсць цікавы вопыт раздзельнага збору адходаў, электроннага ўліку расходаў галіны.

**Полацк.** Больш 150 студэнтак мясцовага дзяржуніверсітэта пасля сесіі паехалі на заробкі ў розныя аздараўленчыя лагеры вобласці ў якасці іх работнікаў і выхавальнікаў.

**Віцебск.** Ужо больш 10 чалавек звярнуліся за дапамогай да медыкаў пасля мошных пасля сутыкнення з ядавітымі лапухамі баршчавіка ў ваколіцах горада.

**Шаркоўшчына.** Гісторыка-краязнаўчы музей Германавіцкай СШ заняў 3-е месца ў Рэспубліканскім конкурсе музеяў устаноў адукацыі да 65-годдзя Вялікай Перамогі.

**Полацк.** Райаддзел міліцыі распачаў крымінальную справу супраць загадчыцы і прадаўца вясковага магазіна, якія менеей чым за 4 месяцы скралі з гэтай крамы амаль 18 млн. рублёў.

**Віцебск.** Арганізатарам "Славянскага базару" удалося дамовіцца аб дадатковым сольным канцэрце на 12 ліпеня з сусветна вядомым італьянскім спеваком Тото Кутуньо.

**Расоны.** У райцэнтры актыўна рыхтуюцца прыняць восенню чарговыя абласныя "Дажынкі-2010", работы па добраўпарадкаванню пачаліся тут паўтара года назад.

**Віцебск.** У гістарычным цэнтры горада адкрылі першую трасу даўжынёй каля 10 км для катання на роліках, веласіпедах і лыжах зімой, пляцоўку для пляжных гульняў.

**Гарадок.** Група навучэнцаў аграрна-тэхнічнага каледжа адправілася на 3 месяцы на стажыроўку ў Германію, там яны ў фермерскіх гаспадарках яшчэ і добра зароблюць.

**Полацк.** За неадпаведнасць проб вады мікрабіялагічным паказчыкам санслужба раёна забараніла купанне ў зонах адпачынку на 4-х азёрах – Янова, Шчаты, Гомель і Суя.

**Віцебск.** У дупле ліпы на тэрыторыі парка прыборабудаўнічага завода сям'я соваў вывела 4-х птушанят, што надзвычай рэдкі выпадак, бо гэтыя птушкі асцерагаюцца людзей.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**1,45** *USD/тыс. куб. м на 100 км* - па такой транзітнай стаўцы канцэрн "Газпрам" пералічыў Беларусі 228 млн. USD за транзіт газу ў Еўропу па беларускай тэрыторыі за лістапад-снежань летась і за першыя 5 месяцаў 2010 года. Узнікшыя ўзаемныя неплацяжы сталі падставай для нядаўняй чатырохдзённай "газавай вайны" паміж Крамлём і афіцыйным Мінскам. Канфлікт абодвум бакам быццам бы ўдалося вырашыць, але сур'ёзныя супярэчнасці паміж саюзнікамі засталіся і ўжо адкрыта гаворыцца, што яны носяць палітычныя матывы.

У гэтым можна было адразу пераканацца, пазнаёміўшыся з ацэнкамі ўзнікшай спрэчкі А. Лукашэнкі ў інтэрв'ю папулярнаму тэлеканалу Euronews. Ніколі яшчэ беларускі лідэр не гаварыў так шчыра, як сапраўдны апазіцыянер, пра імперскае мысленне Масквы. Цытата даслоўная: "імперскае мысленне ў тым і складаецца, што трэба ўзяць, загарнуць, нахіліць, прыціснуць, пятлю накінуць. А інакш яны не ўмеюць". У выніку чарговага супрацьстаяння расійскі манапаліст дабіўся пагашэння беларусамі газавых даўгоў і аплаты майскіх паставак па новых цэнах, хоць і страціў значна болей – 4,2 млрд. USD сваёй капіталізацыі.

Беларускі бок дабіўся аплаты транзіту, але пакуль па ранейшай стаўцы. Пасля гэтай публічнай вострай спрэчкі краіны абмяняліся падобнымі невялікімі сумамі валюты, калі ўлічыць, што толькі харчавання Беларусь штогод прадае Расіі на суму 1,2 млрд. USD, аднак застаўся непрыемны асадак. Перад сваімі ў асноўным тэлегледачамі краіны-ўдзельніцы канфлікту лічаць сябе пераможцамі. Вось толькі ўцягваць у супрацьстаянне іншыя дзяржавы і рабіць іх заложнікамі сітуацыі недапушчальна сярод цывілізаваных партнёраў.

Праўда ў тым, што шэраг пытанняў па кантракту па пастаўках расійскагу газу ў РБ дагэтуль не былі ўрэгуляраваны яшчэ са снежня мінулага года. Першае папярэджанне аб уплаце доўгу Мінск атрымаў у сакавіку, потым – у красавіку, ну, а летам наступілі санкцыі. Беларусам не ўдалося заплаціць за газ бартэрам альбо ў форме ўзаемазаліку ўзаемных плацяжоў і прыйшлося тэрмінова пазычаць неабходную валюту ў Азербайджана. Наша краіна не плаціла амаль паўгода за газ па павышаных цэнах, і ў выніку ў 1-м паўгоддзі не падымалася плата за паслугі ЖКГ на 7 $. Цяпер сумы квітанцый вырастуць, і беларусы вінаваціцьмуць павышэння камунальных тарыфаў будуць называць не свой урад, а расійскага прэзідэнта і А. Мілера, чалавека "з нямецкім прозвішчам".

На дадзены момант Масква вырашыла такім чынам правучыць свайго саюзніка за адмову далучыцца на нявыгадных умовах да Мытнага саюза, за падтрымку адхіленага ад улады лідэра Кыргыстана і як раней за адмову ў прызнаць незалежнасць Паўднёвай Асеціі і Абхазіі. Расіяне таксама злуюцца, што ім, маючым палову акцый "Белтрансгазу", не даваляюць зарабляць на ўнутраным беларускім рынку. Таму "Газпрам" і не згаджаўся на аплату транзіту па павышаных стаўках і ніводнага акту па цане 1,88 USD/тыс. куб. метраў не падпісаў.

У далейшым, як бы мы не хацелі, але ад сферы моцнага расійскага ўплыву і арыентацыі галоўным чынам на закупку расійскіх энерганосьбітаў не адысці. Залежнасць ад усходняй суседкі вялікая яшчэ таму, бо айчынная прадукцыя ў асноўным прадаецца ў Расіі. Іншая справа, што няма пакуль і доказаў, што такім чынам Крэмль жадае паўплываць на абстаноўку напярэдадні новых прэзідэнцкіх выбараў. Можна чакаць, што беларускае кіраўніцтва адмовіцца ад ідэі эканамічных войнаў з уплывовым суседам, з цягам часу пойдзе і на нейкія саступкі ў пытанні Мытнага саюза.

Кошт гэтага пытання велізарны, а перспектыва атрымаць з Расіі з 1 студзеня 2011 года значна больш дарагія газ і нафту. Іншая справа, што аб дыферсіфікацыі ўласнай эканомікі і крыніц атрымання энерганосьбітаў трэба было беларусам думаць раней. Час быў упушчаны, як і далёка мы пакуль знаходзімся ад уступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, куды, падобна, Расію могуць неўзабаве прыняць. Адно ў гэтай гісторыі зразумела: газ краіне патрэбен, за яго трэба плаціць, хоць ён і з Расіі і ўсё даражэе.

# Медальён Караля Польскага Яна III Сабескага

■ Юлія Шарабайка,
г. Глыбокае

**Колькі б мы ні жылі, зямля застаецца тым архівам, дзе хаваецца шмат таямніц. Адны з іх знаходзяцца ў зямлі, іншыя – у сямейных фотаальбомах.**

Вось такая таямніца знаходзілася ў сям'і Лысёнкаў. У вёсцы Храмыя Узрэцкага сельскага савета, па расказу Лысёнка Алега Клетавіча, знойдзены Медальён Караля Польскага Яна III Сабескага. Ён чуў гісторыю гэтага медальёна ад свайго дзядзі Лысёнка Адольфа Фадзеевіча, які працаваў упраўляючым маёнтка пана Корсака ў в. Узрэчча. Многія будынкі ў вёсцы былі пабудаваны ім. Гэты чалавек быў выдатным майстрам: кавалём, сталяром, цесляром, гадзіннікавым майстрам. Ён сам рабіў музычныя інструменты, на якіх іграў. Захавалася званіца, пабудаваная ім у вёсцы Удзела. Ён спрабаваў у 1912 годзе зрабіць аўтамабіль. Доказам гэтай задумы сталі яго распрацоўкі і чарцяжы, знойдзеныя нядаўна. Дык вось, па яго расказах, у вёсцы Храмыя быў выпадкова знойдзены Медальён Караля Польскага Яна III Сабескага. Гісторыю гэтага медальёна ведаў Адольф Фадзеевіч і расказаў свайму пляменніку.


Ян III Сабескі (17 жніўня 1629 – 17 чэрвеня 1696) — кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1674 – 1696).




У вёсцы Храмыя калісьці пражываў род Рацiлоўскіх, якія спрадвеку былі славутымі паварамі каралёў і графаў. За выдатную службу каралі давалі сваім паварам медальёны, якія захоўваліся і перадаваліся ў родзе Рацiлоўскіх ад аднаго члена сям'і да другога. Апошні повар рода Рацiлоўскіх працаваў у пана Корсака. Ён і расказаў Адольфу Фадзеевічу гэту гісторыю. Гэты ж повар захаваў медальён, падораны аднаму з яго продкаў Каралём Польскім Янам III Сабескім. Пасля смерці апошняга з пavароў рода Рацiлоўскіх медальён быў згублены, і толькі праз некаторы час яго знайшлі.

Нядаўна, «ВГ» № 25 (533), быў апублікаваны матэрыял «**Сасна-волат.** Падарожжы з Генадзем Комелем». Спадарства азнаёмілася з адной з цікавостак нашага краю легендарнай 200-гадовай сасной, што расце на ўскрайку Узрэчча. Гэты матэрыял, які прапанаваны цяпер увазе нашых чытачоў, ёсць добрым дапаўненнем таго, што было нядаўна апублікавана. Ігнапаль і быў колісь у некалькіх сотняў крокаў ад гэтай сасны, як і Жарсцвянка, радзіма Генадзя Комеля.

*Уладзімір Скрабатун.*

# Ігнапаль
## і яго ваколіцы


Генадзь Трафімавіч Комель

■ Генадзь Комель

**Цяжка будзе даведацца, хто і калі даў гэтай зямліцы, апрацаванай на выкарчаваных пнях лесу пана Корсака, з роду тых магнатаў Корсакаў, якія будучы, у асноўнай сваёй большасці, праваслаўнымі, будавалі і цэрквы і касцёлы, такое цудоўнае імя. Колькі землеўладальнікаў складалі Ігнапаль – прыйдзецца высвятляць (я думаю, дапамогуць чытачы), але ўсіх суседзяў я добра памятаю і ведаю з большага іх радавод.**

Але пачнём з майго радаводу, які ведаю са слоў майго бацькі Трахіма. Дзед, а мо і прадзед Трахіма, зваўся Андрэй. Чаму я ведаю што Андрэй? Таму, што ў нашым родзе існаваў аповед, як пан з Ігумена адкрываў фортку карэты і тыцкаў-ляскаў у спіну свайго вазніцы і пытаўся: "Андрэй, з якога боку вецер?" Андрэй вазіў свайго пана з Полацка на Вільню, які цяпер завуць – Альгердавым шляхам. Маршрут Альгердава шляху дакладна мне невядомы, я яшчэ не сустракаў такіх звестак. Але, што можна сказаць дакладна, дык гэта тое, што непраходныя балоты шырынёй 5 – 20 кіламетраў цягнуліся ад Паставаў да Дзісны. Таму каля Празарок, радзімы Ігната Буйніцкага, паварочвалі на Галубічы – Кублічы, мясціны Васіля Быкава, і далей – на Докшыцы. А вось з Докшыц ёсць два варыянты Альгердава шляху, таму што ёсць блытаніна паміж Даўгінаўскім трактам, Кацярынінскім бальшаком і Вітаўтавай дарогай.

Колькі часу Андрэй вазіў таго пана? Відаць, доўгі час, бо пан даў Андрэю за добрую працу вольную за гадоў 15 да адмены прыгоннага права, пяць гектараў зямлі і каня. Але чамусьці даў зямлю ў вёсцы Сасноўцы сучаснага Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці, а не на сваёй Ігуменьшчыне – сучасны Чэрвень.

На Беларусі сустракаюцца прозвішчы Камлюк, Комлевы – на сучасны савецкі лад, але Камлі – толькі на радзіме "польскага" кампазітара Станіслава Манюшкі.


**Узрэчча. Тут некалі стаяў двор пана Корсака.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Генадзь Іванавіч Цітовіч – кіраўнік Беларускага народнага хору і мой родны дзядзька – калісьці сказаў, што маё прозвішча такое сакавітае і рэдкае, што ён прапанаваў пісьменніку Брылю даць маё прозвішча аднаму з літаратурных герояў, што й было выканана.

Але вернемся да той тэмы, як перакручвалі і да гэтага часу перакручваюць на расійскі лад беларускія прозвішчы.

Калі мянялі чырвоны сярпасты і малаткасты на сінія пашпарты, было прапанавана запісваць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку на рускай і беларускай мовах. Я й напісаў: Камель Генадзь Трахімавіч. Вы б бачылі й чулі, які падняўся лямант: "Што за Трахім? Што за Генадзь? Такіх нет імён!" Я, як заканапаслушны беларус, толькі заўважыў: "Вы ўдакладніце, калі ласка...". І вось я трымаю ў руках пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь і чытаю: "Прозвішча – Комель; фамилия – Комель. Імя – Генадзій і Геннадий. Імя па бацьку – Трафімавіч і Трофимович".

> "Убачыўшы штосьці незнаёмае – здзівіся, раскрый рот і не закрывай да таго часу, пакуль не зразумееш, што гэта такое і з чым яго ядуць. Перастаў здзіўляцца – ты труп."

Для чаго я псаваў паперу і марнаваў час?

Я мог бы напісаць добрую кнігу, абараніць дысертацыю на тэму, як перапісвалі біяграфіі маіх землякоў. Але пакуль буду апавядаць пра свой радавод. Авохці, божухна мой, ды я ж – вялікая загадка для КДБ, кшталту Рыгора Кобеца, Вольфа Месінга, Вітвіцкага. Спытайцеся, і я распавяду пра гэтых асобаў, але пакуль што, толькі пра сябе. Ды ў мяне ж два родных бацькі, два дзяды, тое ж родныя, радней некуды.

У маёй бабкі Фёдоры, якая пахавана на могілках вёскі Сасноўцы Шаркоўшчынскага раёна, але ўзгадаванай на Ігуменшчыне, было трое сыноў. Старэйшы – Сцяпан. Па матэрыялах яго біяграфіі можна пісаць захапляльны раман. Малодшы – Мікола і сярэдні – Трахім. Дык вось, Трахіма бабка заўсёды называла па-расейску – Трышка. Мо сама была сталбавая дваранка – не ведаю.

Трое братоў, у якіх было яшчэ пяць сясцёр, пражыць на пяці гектарах, падараваных панам, не маглі. Вось яны й вандравалі, як продкі дваранiна Луцэвiча (Янкі Купалы) па запашках (запашнік – арандатар). І калі купілі першыя два гектары ў пана Корсака Узрэцкага (фундатара кляштара ў вёсцы Удзела, бо ўдзялілі Корсакі цэглу на будоўлю таго кляштару), два гектары карчоў з-пад спіленага лесу і пачалі засяляцца каля знакамітай сасны Напалеона, атрымалася цікавая трансфармацыя імя майго бацькі. У нашых мясцінах ніхто імя Трышка не чуў. Вось і падумалі, што гэта Грышка. Так і памёр ён Грышкам, хаця па пашпарту – Трахім. Калі мне выпісвалі камсамольскі білет, я аказаўся Генадзем Грыгоравічам.

У царкоўнай кнізе Залескай царквы (ёй лічыцца царква ў вёсцы Бушыкі), пабудаванай Корсакам у 1642 годзе за чатыры гады і, якая працуе па сённяшні дзень і ніколі не зачынялася, дзе вось гэтым летам 2010 года ахрышчана мая ўнучка Каця з Ульянаўска. Сёмае пакаленне, хрышчонае ў гэтай царкве, праўда з боку маёй мамы, якая была з роду Зубко. Мой бацька Трафім Іванавіч, па пашпарту запісаны: Трофим Іоанович. Дык вось гэты Грышка – Трофим Іоанович – вельмі цікавая асоба. Найперш – па метаду майго выхавання. Вы толькі ўважліва ўслухайцеся і задумайцеся. Ён патрабаваў ад мяне – трох-пяцігадовага хлапчука: "Убачыўшы штосьці незнаёмае – здзівіся, раскрый рот і не закрывай да таго часу, пакуль не зразумееш, што гэта такое і з чым яго ядуць. Перастаў здзіўляцца – ты труп." Вось я і здзіўляюся ў свае 77 год – не хачу быць трупам. І прывучаю сваіх дружбакоў, апантаных краязнаўцаў, падарожнікаў па Беларусі, здзіўляцца.

Мой бацька сябраваў з пісьменнікамі Машарам і Дубровічам – Рэдзькам. Гэта зразумела – суседзі. А вось з пісьменнікам Яўгенам Скурко – Максімам Танкам, тут я не мог зразумець іх сяброўства, покуль не даведаўся, што родны брат Танка ў Глыбокім працаваў бацюшкам. Прыязджаў да майго бацькі Прытыцкі, ну гэта ўжо як да сакратара Беларускай Грамады, пра што амаль ніхто не ведаў. Мой бацька ўдзельнічаў у з'ездзе ўз'яднання Заходняй Беларусі з Усходняй. Як ён рыхтаваўся да гэтай падзеі – размова асобая.

■ Ул. Скрабатун

Стары альбом

# Глыбокае, 1938 г.

Не так даўно да аўтара звярнулася дырэктарка Глыбоцкага дзяржаўнага занальнага архіву па дапамогу ў адшуканні фотаздымкаў Глыбоччыны 1940-1950-ых гадоў.

*– Шкада, але не магу Вам нічым дапамагчы, – кажу. У 1940-ыя гг я не жыў. У 55-ым нарадзіўся, а ў школу пайшоў пасля таго, як Гагарын у космас паляцеў. Яшчэ не той узрост, каб бацька фотаапарат купляў сыну. Першыя ж здымкі зрабіў, дзесьці, у 1970-71 гг. Аднак, гэтага перыяду Вам здымкі не патрэбныя, а толькі 1940-50-ых гг. Не патраплялі мне такія на вочы!*

*Каб фатаграфаваць горад, Радзіму, як бы тое не паказалася банальным, трэба ўсё гэта любіць! А іх – горад і Радзіму – не фатаграфавалі не таму, што не любілі... У 1940-50-ыя гг чалавек з фотаапаратам выклікаў цікавасць у спецорганаў. А раптам – шпіён? Сямейныя здымкі таго перыяду ў глыбачанаў, без сумневу, ёсць. А вось горада і раёна?*

*Апублікуем зварот да нашых чытачоў: «Дапаможам архіву!»*

– Ніхто так і не патэлефанаваў, не зайшоў у архіў, – расчаравана кажа праз пару тыдняў дырэктарка. Шкада!

Дзіўна! Вельмі дзіўна! Пры жаданні: ў Вільні, Варшаве, Мінску, Маскве можна адшукаць здымкі Глыбокага, нават XIX ст., Не настолькі рэдкія здымкі і часоў нямецкай акупацыі 1918 года. Кайзераўскія ваякі за 10 месяцаў акупацыі горада перафоткаліся тут на фоне чаго заўгодна: беразвецкага манастыра, глыбоцкай царквы, вуліц горада. А што казаць пра «польскія» часы! Тысячы фатаграфій!

Бачыў стос здымкаў Глыбокага часоў апошняй вайны. Акупанты таксама не пакінулі без увагі будынкі і вуліцы горада, ёсць групавыя здымкі нямецкіх афіцэраў...

А вось пасляваенныя здымкі Глыбокага, 1940-1950-ых гг., неяк не трапляюцца на вока. Але, гэта не факт, што іх наогул няма.

Здымак, які сёння прапанаваны ўвазе нашых чытачоў, адносіцца да 1938 года. Прэзідэнт Польшчы Ігнацій Масціцкі ў Глыбокім прымае агляд падраздзяленняў Корпуса Аховы Памежжа (Korpus Ochrony Pogranicza).

Дзесьці, у шэрагах гэтых жаўнераў, маршыруе і Люцыян Аксновіч. Ён паходзіў з вёскі Заазер'е (цяпер у складзе Дзеркаўшчыны). З прыходам саветаў, 1 лістапада 1940 года, арыштаваны органамі НКВД. Рэпрэсаваны, вывезены ў Сібір. З пачаткам Другой сусветнай вайны дабраахвотна ўступіў у 2-гі Польскі корпус генерала Уладзіслава Андэрса 8-ай Брытанскай Арміі. Ваяваў пад Монтэ-Касіна. Жыў на эміграцыі, памёр 26.XII.2006 г.

Як згадвае Рональд, сын Люцыяна Аксновіча: «Мой бацька заўсёды з гонарам згадваў, што ён быў у той калоне, якая прайшла пад час агляду перад прэзыдэнтам».


Люцыян Аксновіч

Доўга думаў, як лакалізаваць гэты здымак, бо на ім не праглядающца ключавыя аб'екты: царква ці касцёл. Значыць, гэта не само Глыбокае, а – Беразвечча. Лагічна! Бо гарнізон КАПа размяшчаўся ў манастырскіх мурах.

Калі верыць датыроўцы здымка – 1938 г. – то прэзідэнт І. Масціцкі наведваў Глыбокае неаднойчы. Быў ён тут і ў 1930 годзе, з нагоды чаго і была ўзведзеная памятная брама, якая занатаваная на паштоўках тых часоў.

У 1939 годзе батальён КАПа «Беразвеч» быў перадыслакаваны на заходнюю мяжу Польшчы. Дзе 1 верасня 1939 года, а 4:30 гадзіне батальён «Беразвеч», разам з іншымі польскімі вайковымі фармацыямі прыняў няроўны бой з 7-ай Баварскай пяхотнай дывізіяй, у якой, у 3 батальёне 19 палка пяхоты, пад час Першай сусветнай вайны, служыў сам Адольф Гітлер. Аднак, гэта ўжо зусім іншая гісторыя.



## Шаркоўшчынскі райвыканкам праігнараваў прапанову грамадскасці аб рэалізацыі праекта аднаўлення мястэчка Лужкі, лічыць Антон Астаповіч

**Кіраўніцтва Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці праігнаравала прапанову грамадскасці аб сумеснай рэалізацыі праекта аднаўлення старадаўняга беларуска-яўрэйска-польскага мястэчка Лужкі. Такое меркаванне выказаў БелаПАН старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч.**

Ён нагадаў, што гэта прапанова прагучала 15 чэрвеня ў Лужках на пасяджэнні круглага стала з удзелам прадстаўнікоў грамадскасці і мясцовых улад. Паколькі ў рамках супрацоўніцтва ЕС з Беларуссю дзейнічае праграма партнёрства грамадскіх аб'яднанняў з органамі мясцовай улады ў сацыяльна-культурнай сферы, па якой выдзяляюцца гранты на суму ад 100 да 200 тыс. еўра з рэалізацыяй на працягу 1,5-3 гадоў, Астаповіч прапанаваў чыноўнікам падаць сумесную заяўку на грант для аднаўлення ў Лужках шэрагу помнікаў архітэктуры. Сярод іх сінагога сярэдзіны XIX стагоддзя, звязаная з жыццём бацькі сучаснага іўрыту Эліэзера Бен-Іегуды (Лейзера Іцхака Перэльмана), які нарадзіўся ў Лужках у 1859 годзе і вучыўся ў мясцовым хедары да 1872 года, вадзяны млын канца XIX стагоддзя, а таксама старадаўняя вуліца Млыновая з каменным пакрыццём, якая спалучае абодва помнікі.

Як адзначыў Астаповіч, 28 чэрвеня ў Шаркоўшчыне была дасягнута дамоўленасць паміж кіраўніцтвам таварыства і мясцовымі ўладамі аб падрыхтоўцы сумеснай заяўкі на грант. Паводле яго слоў, чыноўнікі запэўнілі кіраўніцтва таварыства, што пасля ўнясення сваіх прапаноў у заяўку яны адправяць яе па электроннай пошце пад паўдня 2 ліпеня. «Аднак я так і не атрымаў гэты дакумент ад Шаркоўшчынскага райвыканкама, а ўсе спробы звязацца з мясцовымі ўладамі па тэлефоне не далі ніякіх вынікаў»,- сказаў Астаповіч. Такім чынам, паводле яго слоў, чыноўнікі сарвалі тэрміны падачы заяўкі ў структуры Еўрасаюза і пакаралі сваё нежаданне супрацоўнічаць з грамадскасцю.

Астаповіч выказаў здзіўленне пазіцыяй мясцовых улад, якія адмовіліся ад прапановы па прыцягненні інвестыцый у рэгіён, бюджэт якога на 70% фарміруецца за кошт дзяржаўных датацый.

У інтэрв'ю БелаПАН начальнік ідэалагічнага аддзела Шаркоўшчынскага райвыканкама Мікалай Макаранка адзначыў, што рашэнне аб супрацоўніцтве з грамадскім аб'яднаннем залежыць не ад яго.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

## Стартаваў VIII рэспубліканскі турыстычны конкурс «Пазнай Беларусь»

**Восьмы рэспубліканскі турыстычны конкурс «Пазнай Беларусь» стартаваў 1 ліпеня намінацыяй «Я пазнаю Беларусь».**

Конкурс «Пазнай Беларусь» праводзіцца штогод з 2002 года. Яго арганізатарамі выступаюць Міністэрства спорту і турызму Беларусі, РУП «Нацыянальнае агенцтва па турызме», рэдакцыя газеты «Туризм и отдых».

Мэта конкурсу – садзейнічаць развіццю ўнутранага і ўязнога турызму ў Беларусі, кансалідаваць намаганні дзяржаўных органаў, арганізацый і ўсіх, хто працуе ў сферы айчыннага турбізнесу, а таксама заахвоціць дасягненні па развіцці турыстычнай індустрыі.

Як паведаміў начальнік аддзела маркетынгу і выдавецкай дзейнасці Нацыянальнага агенцтва па турызме Валерый Болдыраў, сёлета прынята рашэнне загадзя аб'явіць пра адзіную намінацыю для фізічных асоб «Я пазнаю Беларусь». Перамога ў гэтай намінацыі прысуджаецца таму, хто наведае найбольшую колькасць тураб'ектаў з пераліку, што размешчаны на сайце Нацыянальнага агенцтва па турызме.



На сёння пералік налічвае 555 аб'ектаў, і наведаць іх за два месяцы «нерэальна», адзначыў Болдыраў. У якасці пацвярджэння наведвання турыстычных аб'ектаў прымаюцца фатаграфіі на іх фоне, датаваныя не раней чым 1 студзеня 2010 года. Фатаграфіі прымаюцца да 4 кастрычніка ўключна. Сёлета ў конкурсе плануецца прадугледзець да 10 намінацый, некаторыя з іх будуць абноўлены ў параўнанні з мінулым годам. Прыём заявак пачнецца ў жніўні, а ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў пройдзе ў 20-х числах кастрычніка ў рамках выставы «Турбізнес-2009». Лаўрэаты конкурсу стануць уладальнікамі памятных знакаў і дыпломаў.

Як паведаміў Болдыраў, на працягу сямі гадоў у конкурсе ўзялі ўдзел больш як 500 прадстаўнікоў турыстычнай галіны Беларусі: туркампаніі, гатэлі, перавозчыкі, сельскія сядзібы, тураб'екты, СМІ, санаторна-курортныя арганізацыі, а таксама прыватныя асобы.

*БелаПАН.*

# Усё добрае калісьці скончаецца

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Прырода Рэспублікі Беларусь вельмі разнастайная. Шмат лясоў, азёр, рэк, балот, але як мы ставімся да яе захавання. Настае час збору ягад і пачынаецца масавы збор ягад камбайнамі. Шматлікія грамадзяне, парушаючы закон, ідуць у лес, каб зарабіць грошай, але ўсё добрае калісьці скончаецца, пры затрыманні парушальнікаў супрацоўнікамі інспекцыі ці ляснной аховы іх чакае велізарны штраф.**

Таму, Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету нагадвае ўсім грамадзянам пра тое, што збор ягад усіх выглядаў з дапамогай «камбайна» ці грабянца забаронены. Заканадаўствам усталявана адміністрацыйная адказнасць за збор ягад з дапамогай грабянцоў, ч. 2 арт. 15.26 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні» прадугледжвае адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь, з пакрыццём прычыненага прыродзе шкоды, за 1 кг ягад спаганяецца шкода ў памеры 1,2 базавых велічыні (42500 руб.) Калі ж шкода прычыненая прыродзе складзе больш 40 базавых велічынь, то ў адносінах парушальніка будзе ўзбуджана крымінальная справа.

Пасля некалькіх разоў збору ягад пры дапамозе грабянца, ягаднікі перастаюць пладаносіць, у шматлікіх месцах можна назіраць прыгожыя кусты чарніцы, але - ягад на іх няма, гэта вынік неаднаразовага ўжывання «камбайнаў».

Глыбоцкая міжрайінспекцыя будзе ўжываць да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства самыя строгія меры адказнасці.

Багатая наша рэспубліка вадаёмамі, асабліва яе паўночная частка, якая атрымала такую прыгожую назву – Беларускае Паазер'е. Калі каму-небудзь пашчасціла зірнуць на гэты край з вышыні птушынага палёту, то ўбачаная карціна запомніцца на ўсё жыццё. Бо кожнае возера па сваёй прыгажосці непаўторна. Але, з такім варварскім стаўленнем да іх, мы хутка будзем глядзець проста на пустую, мёртвую ваду. Браканьеры кожны дзень вылоўліваюць тоны рыбы.

Так, 21 чэрвеня 2010 года супрацоўнікамі інспекцыі на возеры Бярозаўскае Глыбоцкага раёна затрыманы грамадзянін К., які ажыццяўляў здабычу рыбы пры дапамозе сетак, матэрыялы накіраваныя ў раённы суд.

25 чэрвеня 2010 года на возеры Горнае Ўшацкага раёна супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі затрымалі 2 мясцовых жыхароў, якія ажыццяўлялі здабычу рыбы пры дапамозе мярож, парушальнікаў чакае прыстойны штраф.

29 чэрвеня 2010 года каля 20 гадзін на возеры Восаўскае Глыбоцкага раёна затрыманы мясцовы жыхар, які праводзіў лоўлю рыбы сеткамі, пакаранне парушальніку вынесе раённы суд.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету: 8-02156-2-86-70 ці мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 351-28-12.



# У Гродне на вуліцы Пушкіна з'явіліся на свет шпакі-альбіносы

Колькі гадоў таму сям'я Ганны Маскалёвай паставіла побач са сваім балконам некалькі шпакоўняў. А сёлета, у адной з іх, на свет з'явіліся адразу два шпакі-альбіносы.

Альбінізм -- рэдкая з'ява ў жывёльным свеце. Як у любога альбіноса, у іх адсутнічае пігментацыя. Вочкі і лапкі здаюцца ружовымі дзякуючы сетцы маленечкіх крывяносных сасудаў, што падступаюць да паверхні.

Альбіносы рэдка выжываюць. Звычайна нават суродзічы адвяргаюць іх. Хаця бацькі гэтых шпачкоў не кінулі і пастаянна прыносяць ім ежу.

Каб іх не задзяўблі вароны, Ганна пасяліла птушанятак у сябе на балконе.

На думку кіраўніка Гродзенскага абласнога аддзялення ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны» Дзмітрыя Вінчэўскага, птушаня-альбінос з'яўляецца прыблізна ў адным выпадку на мільён.

www.nn.by



# Белкаапсаюз праводзіць перамовы аб экспарце чарніц у Італію, Германію і Кітай

**Белкаапсаюз праводзіць перамовы аб экспарце чарніц у Італію, Германію і Кітай у 2010 годзе, паведаміла на прэс-канферэнцыі 1 ліпеня ў Мінску начальнік упраўлення нарыхтовак саюза Аксана Скіндэр.**

«Чарніцы з'яўляюцца важкай пазіцыяй экспарту. Паводле інфармацыі замежных крыніц, беларускія чарніцы ўтрымліваюць больш карысных рэчываў, чым украінскія. Гэта пацверджана лабараторнымі даследаваннямі», – сказала Скіндэр.

Яна паведаміла, што летась у Кітай была пастаўлена партыя чарніц, якая выкарыстана фармацэўтычнай прамысловасцю. Значны аб'ём экспарту прыпадае на краіны Балтыі. У 2010 годзе ўсяго за мяжу было пастаўлена 4 тысячы тон чарніц.

Спецыяліст адзначыла, што еўрапейскія краіны пакуль не вызначыліся з цаной закупкі на чарніцы. «Мы спадзяемся, што цэны будуць вызначаны на наступным тыдні. У сувязі з наступствамі паводкі ў Польшчы, мы прагназуем, што беларуская ягада будзе запатрабаваная. Мы пакуль займаем пазіцыю чакання», – растлумачыла Скіндэр.

Паводле інфармацыі Белкаапсаюза, за студзень–май 2010 года на экспарт было пастаўлена прадукцыі на 18,4 млн. долараў, што на 30,1% больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Станоўчае сальда знешняга гандлю склала 11,5 млн. долараў.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# Рэкамендаваныя закупачныя цэны на ягадную сыравіну для прамысловай перапрацоўкі ў 2010 годзе павялічаны на 30-50%

**Рэкамендаваныя закупачныя цэны на ягадную сыравіну для прамысловай перапрацоўкі ў 2010 годзе павялічаны на 30-50% (ад 700 да 1.000 рублёў) у параўнанні з 2009 годам.**

Як паведаміла на прэс-канферэнцыі 1 ліпеня ў Мінску начальнік упраўлення нарыхтовак Белкаапсаюза Аксана Скіндэр, гэта прадугледжана пратаколам аб устанаўленні рэкамендаваных закупачных цэн, які быў падпісаны Белкаапсаюзам і канцэрнам «Белдзяржхарчпрам» 26 чэрвеня.

Згодна з дакументам, у насельніцтва рэкамендавана закупляць чорныя парэчкі па 1.500 рублёў за кг, чырвоныя парэчкі па 1.200, вішню, чарэшню па 1.700, маліну па 2.500, чарніцы па 3.000 рублёў за кг. Скіндэр зазначыла, што Белкаапсаюз не з'яўляецца манапалістам нарыхтовак сельгаспрадукцыі, сыравіны, ягад і грыбоў і не дыктуе цэны. «Цэны фарміруюцца пад уплывам прапановы і попыту, а таксама цэн на знешніх рынках», сказала яна. Апрача таго, закупачныя цэны залежаць ад якасці, дадала спецыяліст. «Адна цана ўстанаўліваецца, напрыклад, на ягаду, прызначаную для вінаробства, другая для кансервавання і трэцяя для рэалізацыі ў рознічным гандлі», заўважыла яна.

Залежаць цэны і ад ураджайнасці. Напрыклад, паводле слоў Скіндэр, сёлета чакаўся вялікі ўраджай клубніц, але з-за ўмоў надвор'я ягад было нарыхтавана менш, чым планавалася. На 28 чэрвеня нарыхтавана 1.206 тон клубніц, або 51% ад леташняга ўзроўню.

Сёлета раней пачалі спец чарніцы, якіх нарыхтавана ўжо 150 тон, або ў 3,35 разы больш, чым за аналагічны леташні перыяд. Раней, чым летась, пачалася нарыхтоўка чорных і чырвоных парэчак, дадала Скіндэр.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# Міліцыянер-браканьер патрапіў у СІЗА

Работнікі Бярозаўскай міжрайінспекцыі падчас сумесных аператыўных мерапрыемстваў з супрацоўнікамі УКДБ па Брэсцкай вобласці паблізу вёскі Лявошкі Бярозаўскага раёна спынілі для праверкі аўтамабіль «Мерседэс-123» пад кіраўніцтвам работніка Бярозаўскага РАУС.

Падчас агляду аўтамашыны была знойдзеная скрадзеная сажалкавая рыба (карп, таўсталобік) агульнай вагой 174 кілаграмы і мокрыя сеткі агульнай даўжынёй 441 метр. Апошнія канфіскаваныя, рыба вернутая ў рыбгас «Сялец». Парушальнікі, а ў салоне акрамя вадзіцеля быў яшчэ машыніст кацельні в/ч 55782, былі змешчаныя ў СІЗА УКДБ па Брэсцкай вобласці. У дачыненні да аднаго з іх заведзена крымінальная справа за злоўжыванне ўладай ці службовымі паўнамоцтвамі, здзейсненае з карыслівай ці асабістай зацікаўленасці.

*Сяргей Расолька, Звязда*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

12 – 18 ліпеня 2010 г.







## ПАНЯДЗЕЛАК, 12 ліпеня





**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00,19.00**Новости.
**06.05,07.10,08.15**«Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.45** Здоровье.
**10.10** Женское ток-шоу
**11.05 «Не родись красивой»**
**12.10** Слово Митрополита Филарета на день Первоверховных Апостолов Петра и Павла.
**12.20** «Славянский базар в Витебске-2010». Дневник.
**12.25** Премьера. **«Мужчина в доме»**
**14.05** «Золотые Витязи» Беларуси». П. 1-я.
**14.30** «Кровь» цикла «Грюнвальд».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25** «Славянский базар в Витебске-2010».
**15.30 «Доярка из Хацапетовки. Вызов судьбе»**
**16.25 «Всегда говори «всегда»**
**17.25** «Славянский базар в Витебске-2010».
**17.30 «Не родись красивой»**
**18.25** «Прости меня».
**18.50, 01.00** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Славянский базар в Витебске-2010». Мастера искусств России.Д.Хворостовский.
**21.00** Панорама.
**21.50** «Славянский базар в Витебске-2010».
**22.00** «Славянский базар в Витебске-2010». Мастера искусств Беларуси.
**00.15 «Части тела-5»**
**01.05** День спорта.





**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «К.Райкин. Театр строгого режима».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Микки Маус. Домашний клуб».
**11.30 «Моя жена меня приворожила».**
**12.00** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять.Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.30** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо».**
**18.00** Наши новости
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Папа на все руки».**
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05 «Ермоловы».**
**22.05 «Остаться в живых».** 6-я серия.
**23.05** Наши новости.
**23.20** Новости спорта.







**23.25 «Говорящая с призраками».**
**00.15** Наши новости.
**00.30-00.40** Новости спорта.





**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.25** Сериал **«Любовь как любовь»**
**10.25 «Как рыбка без воды»**
**12.00** «Пра мастацтва».
**12.30** Школа ремонта.
**13.25 «Полюби меня снова»** (Мексика).
**14.25 Мультфильм.**
**14.35** Внеклассный час.
**14.50** Телебарометр.
**15.05**Простые упражнения
**15.40 «Налетчики»**
**16.30** Час суда. Дела семейные.
**17.25** Врачебные тайны
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.05** Комедийная драма **«Анатомия Грэй-4»**
**19.55** Белорусское времечко.
**20.55** Калыханка.
**21.15 «Универ»** (Россия).
**21.50 «Налетчики»**
**22.45 «Любовь как мотив»**
**00.15** Альбарутения.





**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «У парадного подъезда»
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха».** Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30** Концерт Михаила Задорнова.
**15.20** «Звездный ринг».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».



**18.30 «Мачеха».** Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25 «ОСТРОВ»**
**22.30** «24 часа».
**22.55**«Столичныйфутбол».
**23.25 «ПОСЫЛКА».** США,

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**07:40** Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча
**08:05** Басанож па свеце
**08:30** Побач з намі
**08:50** «Ганна, сем год на лініі фронту»
**10:05** Вагон
**10:15 «Таямніца крэпасці шыфраў»**, 2 с.
**11:00 «Загадкі Мэрдака»,**
**11:45 «Знакамітасць»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Папялушка»**
**17:30 «Таямніца крэпасці шыфраў»,**
**18:15** Аўтастопам праз Еўропу: «Мілан»
**18:35** «Як пушчу стралу», дак. фільм
**19:00** Прэс-экспрэс
**19:15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:30 «Надзвычай прыгодніцкіяпадарожжы Цюхці»**,мультсерыял
**19:35** Еўропа сёння
**20:05** Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча
**20:30** «Электравік», дак. фільм,
**21:40 «Знакамітасць»**

